№ 173 (525)
Чацвер, 24 верасня 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля



**Віншуем!**



*Старэйшаму беларускаму пісьменніку, бліскучаму майстру верша, дакументальнай, публіцыстычнай і мемуарнай прозы Сяргею Грахоўскаму заўтра спаўняецца 85. Адметная дата, пачэсны і вялікі жыццёвы шлях!*

*Шчыра віншуючы Сяргея Іванавіча і змяшчаючы побач са словам пра юбіляра яго апошнія вершы, мы радуемся, што ён і сёння ў выдатнай творчай форме. Аб гэтым сведчыць, дарэчы, і апублікаваны ўчора ў "Народнай волі" ягоны артыкул аб творчасці Святланы Алексіевіч.*

*Разам са шматлікімі прыхільнікамі Вашай цудоўнай паэзіі "Народная воля" жадае Вам, дарагі Сяргей Іванавіч, добрага здароўя і новага творчага плёну дзеля нашай Бацькаўшчыны!*

*(Матэрыялы, прысвечаныя 85-годдзю Сяргея Грахоўскага, чытайце на 2-й старонцы.)*

## І журналісты вучацца

Учора ў Мінску адкрыўся двухдзённы міжнародны семінар для журналістаў, арганізаваны Беларускай асацыяцыяй журналістаў з удзелам Сусветнага інстытута свабоднай прэсы (Каліфорнія, ЗША). У рамках агульнай праграмы "Павышэнне эфектыўнасці дзейнасці СМІ ў Рэспубліцы Беларусь" удзельнікі семінара разглядаюць магчымасці і ролю беларускіх сродкаў масавай інфармацыі падчас правядзення выбараў на розных узроўнях. Прадугледжана таксама абмеркаванне такіх важных для журналістаў тэм, як стратэгічнае планаванне і менеджмент, газетны дызайн.

Падобны семінар ужо прайшоў напрыканцы мінулага тыдня ў Магілёве; аналагічныя мерапрыемствы пройдуць у Гомелі, Брэсце і Гродне.

**Васіль БАЗЫЛЬ.**

## З 1 кастрычніка ў Беларусі павялічыцца памер пенсій

З 1 кастрычніка ў Беларусі ў сярэднім на 15,3 працэнта павялічыцца памер пенсій. Сярэдні памер пенсій у кастрычніку складзе 2 мільёны 100 тысяч рублёў. Максімальная пенсія ўзрасце на 14,6 працэнта і дасягне 2 мільёнаў 511 тысяч рублёў. Памер мінімальнай пенсіі, якая павялічыцца на 16,5 працэнта, разам з устаноўленай урадам даплатай складзе 1 мільён 50 тысяч рублёў. На памер новай мінімальнай пенсіі паўплывала і тое, што з 1 кастрычніка ў рэспубліцы павялічваецца мінімальная заработная плата: з 250 тысяч да 350 тысяч рублёў. У сувязі з гэтым аўтаматычна павялічваюцца розныя выплаты, якія залежаць ад памеру "мінімалкі".

Для выплаты павялічаных пенсій з Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва ў кастрычніку запатрабуецца больш за 720 мільярдаў рублёў.

**Максім ЦІТОЎ, БелаПАН.**

## При загадочных обстоятельствах...

Ушел из жизни Игорь Александрович Нелюбин. Человек этот достаточно известен. Он — заслуженный строитель Республики Беларусь, кандидат технических наук, генеральный директор арендного производственного строительно-монтажного объединения "Гомельпромстрой". Был он и депутатом Верховного Совета Республики Беларусь предпоследнего, 12-го, созыва.

Смерть Игоря Нелюбина произошла при невыясненных обстоятельствах. Он возвращался из Москвы в родной Гомель. Когда проводница спального вагона зашла к нему в купе в районе Буда-Кошелево, то обнаружила своего пассажира мертвым. На шее она увидала след от брючного ремня. Говорят, что живым его видели еще в Жлобине. Отсюда и предположение, что трагедия произошла на перегоне между Жлобином и Буда-Кошелево.

В Москве покойный был по делам службы. Дело в том, что гомельское объединение, которое он возглавлял, строило коттеджи для Министерства по чрезвычайным происшествиям Российской Федерации. Строители, которые работают в столице России, видели своего шефа на рабочей площадке. Потом он поехал домой. Поскольку вокруг этой стройки, как говорится, вертятся большие деньги, то по Гомелю ходят самые разные слухи.

**Владимир КОТ.**

**Надвор'е**

**24 і 25 верасня на тэрыторыі рэспублікі пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Вецер паўночна-заходні, 4—9 м/с. Тэмпература паветра ўначы +2...+7, месцамі па рэспубліцы замаразкі да 0...-2; удзень 24-га — +13...+18, 25-га — +11...+16.**

## Да ўвагі чытачоў

**Шаноўныя сябры!**

**Нам не хочацца засмучаць вас, але, на жаль, з-за фінансавых і матэрыяльных цяжкасцей мы вымушаны да канца месяца зрабіць некалькі пропускаў у выпуску газеты.**

**Наступны нумар "Народнай волі" выйдзе у суботу, 26 верасня.**

**Рэдакцыя.**

**Накипело**

## А льготы, выходит, липовые...

Я имею более 40 лет производственного стажа. Свои планы в жизни когда-то строил так. Пойду на пенсию — навещу всех своих родственников в Перми, Москве, Самаре, Мурманске, Одессе, напутешествуюсь всласть. Для этой цели собирал мозолем заработанные деньги. Водочкой я не баловался, не осыпал сверх меры гостинцами детей, по ресторанам не ходил, ни разу не тратился на заграничный вояж.

А в конечном счете что вышло? Вся моя бережливость — коту под хвост. Теперь вот из-за дорогой дороги три года собираемся с женой съездить в Брянск к ее брату и никак не можем себе позволить такое удовольствие. Сестра моя живет в Брестской области, но видимся в последние годы тоже редко. На один бензин, если ехать машиной, пришлось бы отдать половину пенсии, а поездом через Барановичи за день не доберешься. Маршрутный автобус Гродно — Береза снят. Вот и сидим по своим норам, не видясь друг с другом, словно поссорились.

Про "сгоревшие" наши вклады сейчас никто и не вспоминает.

Кто трудился на всю катушку и кое-какие сбережения доверил государству, как и те, кто лодырничал и транжирил, в одном положении оказались. И пенсия у трудяг и разгульных лентяев почти уравнена. На равных со своей пенсии рассчитываемся за коммунальные услуги,. платим налог в садоводческие общества за клочок бросовой земли (полянки, неудобицы, карьеры и т.д.). Кроме платы за проезд в городском автобусе и на пригородном железнодорожном транспорте, нет нам никаких льгот, никаких снисхождений.

Законы у нас, что и говорить, далеки от совершенства. Дали в этом году льготы пенсионерам на содержание личного транспорта. Пошел я на медкомиссию, заключение которой предоставляется в ГАИ перед техосмотром машины. Уплатил за справку 112.500 рублей, как и молодые. Но мне медицинская справка выдана на 2 года, а молодым — на 5 лет. Выходит, отдав десятилетия честному труду, потеряв силу и здоровье, пенсионер в два с половиной раза несет больше расходов за медсправку, чем те, кому справка выдается на пять лет. Вот вам и льготы — липовые они!

Везде, причем нередко на государственной основе, обманывают народ. Когда же пробьет час правды и уважения к нам, людям старшего поколения?

**Владимир СКОПЦЕВ, пенсионер.**

Гродно.

## У неарганізаваным гандлі Мінска аднавіўся рост цэн

На мінулым тыдні ў неарганізаваным гандлі Мінска аднавіўся рост цэн, выкліканы чарговым этапам павышэння наяўнага і безнаяўнага курсаў амерыканскага долара.

Да прыкладу, імпартныя цыгарэты падаражэлі ў сярэднім на 17 працэнтаў (у прыватнасці, "L&M" — з 49—55 да 55—66 тысяч рублёў), алей і макаронныя вырабы — на 16 (адпаведна з 105—125 да 127—140 і з 36—46 да 40—55 тысяч рублёў), курыныя кумпячкі — на 14 (са 125—130 да 142—148 тысяч рублёў), цукар — на 8 (з 42—45 да 44—50 тысяч рублёў), крупы — на 7 (у прыватнасці, грэцкія — з 55—65 да 60—70 тысяч рублёў) працэнтаў. Цэны на імпартны шакалад павялічыліся на 10 працэнтаў.

Варта адзначыць, што кошт некаторых тавараў зараз вышэйшы за той, што быў зафіксаваны ў пік валютнага крызісу ў пачатку верасня, у той час як наяўны і безнаяўны курсы долара яшчэ не дасягнулі зафіксаваных тады максімальных значэнняў. На мінулым тыдні на чарговыя пяць працэнтаў падаражэлі рэалізуемыя ў мінскіх магазінах малочныя прадукты. Зараз літр малака тлустасцю 2,5 працэнта каштуе 8.900 рублёў (раней — 8.400), кілаграм смятаны тлустасцю 15 працэнтаў — 34.700 (раней — 33.100), кілаграм нятлустага твАрагу — 35.700 (раней — 34.000). За апошні месяц кошт малочных прадуктаў узрос у сярэднім на 20 працэнтаў.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

## Ролю "забойцы" згуляць студэнту не ўдалося

У момант атрымання выкупу ў суме 1200 долараў супрацоўнікамі праваахоўных органаў затрыманы студэнт Полацкага дзяржуніверсітэта Д. Цяпер ужо былы пагрозлівы "кілер", які вучыўся на юрыдычным факультэце, відаць, перачытаўся дэтэктываў, што вырашыў зарабіць сабе грошы на бязбеднае жыццё арыгінальным чынам. Ад сваіх знаёмых ён выпытаў імёны, дакладныя адрасы і кватэрныя тэлефоны дзяцей двух кіруючых работнікаў вытворчага аб'яднання "Нафтан", а потым пачаў палохаць іх бацькоў, што, маўляў, паступіла яму "заяўка" на іх фізічнае знішчэнне. Увайшоўшы ў ролю забойцы, студэнт паабяцаў пакінуць сем'і ў спакоі і не браць грэх на душу, калі яму выплацяць вызначаную суму "зялёненькіх". Аднак патрымаць жаданыя грошыкі ў руках давялося экс-юрысту толькі лічаныя хвіліны.

Апошнім часам імкненне хуткай нажывы пераважвае ў людзей над апошнімі рэшткамі сумлення і чалавечай годнасці. Крыху раней былы старшы механік з таго ж "Нафтана" для разборкі з адным мясцовых кіраўнікоў выбраў палату кардыялагічнага аддзялення. Гэты "кілер" у гадах вымагаў у хворага чалавека 7 тысяч дойчмарак, пагражаючы ў іншым выпадку забіць ягоных родных і знішчыць нажытую маёмасць. На шчасце, ад пагроз да рэальнага іх увасаблення ў жыцці справа не дайшла, а яшчэ аднаго "тэрарыста" затрымалі прама ў яго на кватэры.

**Уладзімір ШЫК.**

## Органамі КДБ затрыманы работнік аднаго з упраўленняў Савета міністраў Беларусі

Раніцай 22 верасня ў сваім рабочым кабінеце пры атрыманні буйной сумы хабару супрацоўнікамі Камітэта дзяржбяспекі затрыманы работнік аднаго з упраўленняў Савета міністраў Беларусі Мікалай Аляксееў. Аб гэтым БелаПАН стала вядома з добра інфармаванай крыніцы ва ўрадзе. Па словах крыніцы, арышт М.Аляксеева стаў нечаканасцю, паколькі дагэтуль рэпутацыя гэтага чалавека не выклікала сумненняў.

Дэталі затрымання М.Аляксеева пакуль не паведамляюцца. У той жа час вядома, што на сённяшнім пашыраным пасяджэнні Савета міністраў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падзякаваў супрацоўнікам КДБ за "прынцыповасць і рашучасць" у барацьбе з карупцыяй, нягледзячы на асобы.

**Аляксандр ПАПОВІЧ, БелаПАН.**

**Дипкурьер**

## Послом быть легче, чем вице-премьером

Утверждение, вынесенное в заголовок этой заметки, относится к Владимиру Гаркуну. В предыдущем номере мы уже сообщали, что президент Лукашенко объявил о скорой отставке Владимира Гиляровича с поста вице-премьера. И объяснил это так: "Я очень сожалею — в ближайшее время мы вынуждены будем расстаться с Владимиром Гиляровичем Гаркуном, поскольку человек немножко приболел, и, конечно, я не могу дожимать на этой (вице-премьерской) работе... Он уже давно просит, чтобы я его отпустил на другую работу".

Предполагается, что новым местом работы вице-премьера станет должность посла Беларуси в одном из прибалтийских государств, а возможно даже и где-то подальше, например, в Австрии. Если это предположение подтвердится, то мы будем считать, что работать дипломатом легче, чем аграрием.

**Владимир ГЛОД.**

## У штаб-кватэры Беларускага народнага фронту адкрылася выстава твораў Яўгена Шатохіна

Вечарам 21 верасня ў штаб-кватэры Беларускага народнага фронту ў Мінску адкрылася выстава твораў Яўгена Шатохіна, члена Саюза мастакоў Беларусі, старшыні пінскай гарадской арганізацыі БНФ.

Экспазіцыя пад назвай "Любоў моя, Беларусь" прысвечана 80-годдзю ўтварэння БНР і 10-годдзю заснавання БНФ. Асноўныя тэмы твораў мастака — палескія пейзажы і гісторыя Піншчыны, намаляваныя з натуры. Выстава будзе працаваць да 10 кастрычніка.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

**Стоп-кадр**



Средь бела дня 42-летний гомельчанин Н. вместе со своими молодыми компаньонами по распитию спиртного на принадлежавшем ему опеле "Аскона" не вписались в поворот и снесли светофор на проспекте Космонавтов в Гомеле. Теперь незадачливому водителю в течение трех лет придется только мечтать о подобных прогулках, а пока он займется восстановлением искореженной техники, и прежде всего светофора.

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БелТА.**

**Крымінал**

## Граніца — не прахадны двор

Семярых грамадзян Афганістана затрымалі 21 верасня пагранічнікі Гомельскага пагранатрада. Паводле інфармацыі, атрыманай БелТА ў Дзяржкамітэце пагранвойскаў, афганцы спрабавалі трапіць на тэрыторыю Украіны ў абход прапускнога пункта. Прычына парушэння трывіяльная — у парушальнікаў не было пры сабе належных дакументаў. Пасля разбору няўдачлівыя падарожнікі былі выдвараны за межы нашай краіны. У гэты ж дзень затрыманы трое беларускіх грамадзян, якія спрабавалі незаконна перасекчы граніцу.

## Газавая "атака" ў... школе

У разгар вучэбнага дня 21 верасня ў адной са школ у Мастах здарылася сапраўднае ЧП. Як паведамілі БелТА ў прэс-службе МУС, вучань 11-га класа з хуліганскіх намераў выпусціў порцыю атрутнага рэчыва з газавага балончыка. У выніку газавай "атакі" атруціліся 19 вучняў 5-6-х класаў, якія былі змешчаны ў бальніцу. Вядзецца разбор.

**БелТА.**

## Дэлегацыя дзелавых колаў Турцыі наведае Беларусь для ўстанаўлення кантактаў з беларускімі вытворцамі

Для ўстанаўлення кантактаў з прадстаўнікамі беларускіх афіцыйных і дзелавых колаў з 23 па 26 верасня ў Беларусі будзе знаходзіцца дэлегацыя дзелавых колаў Турцыі на чале з нанава прызначаным старшынёй турэцкай часткі змешанага Турэцка-беларускага камітэта па супрацоўніцтве Мехметам Алі Нейзі. У сваёй краіне Нейзі ўзначальвае фірму, якая ўваходзіць у дзесятку найбуйнейшых турэцкіх інвестараў.

У адпаведнасці з праграмай візіту дэлегацыя правядзе перамовы ў Міністэрстве знешніх эканамічных сувязяў Рэспублікі Беларусь, упраўленні справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Беларускай гандлёва-прамысловай палаце, наведае "Белзнешэканамбанк", ВА "БелаўтаМАЗ", "МТЗ", "Атлант", ПКФ "Трайпл" і СП "Форд-Юніён".

Турэцкія прадпрымальнікі, якія ўваходзяць у дэлегацыю, зацікаўлены ў супрацоўніцтве з канкрэтнымі беларускімі прадпрыемствамі і арганізацыямі, занятымі ў машынабудаўнічай прамысловасці, будаўніцтве і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў, а таксам ў банкаўскай сферы. Як паведамілі БелаПАН у Беларускай гандлёва-прамысловай палаце, падчас наведвання згаданых прадпрыемстаў, магчыма, адбудзецца абмеркаванне інвестыцыйных праектаў, датычных супрацоўніцтва з Беларуссю ў адпаведных сферах дзейнасці.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**

## У 10-м інжынерна-сапёрным палку працуе камісія Галоўнай ваеннай пракуратуры

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Міністэрства абароны Беларусі, з пачатку гэтага тыдня ў 10-м інжынерна-сапёрным палку, што ў Магілёве, прыступіла да працы камісія Галоўнай ваеннай пракуратуры Мінабароны.

Камісію ўзначальвае генерал-маёр Уладзімір Пацкоў. На працягу тыдня тут будуць правераны стан баявой і мабілізацыйнай гатоўнасці, службы войскаў, маральна-псіхалагічнай падрыхтоўкі асабовага складу, тэхнікі і ўзбраення, воінскай дысцыпліны і інш. Поўнае інспектаванне таксама будзе праведзена і на Цэнтральнай базе разгортвання інжынерных войскаў, якая размешчана па суседстве.

**Юрый СТРЫГЕЛЬСКІ, БелаПАН.**



**Незалежная экспертыза**

*Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар*

## Расійская фінансавая піраміда абвалілася, беларуская – ствараецца

Зараз, калі фінансавы крызіс Расіі дае ведаць і ў Беларусі праз небывалы рост цэн, дэвальвацыю рубля, зніжэнне жыццёвага ўзроўню народа, аналітыкі сталі гаварыць пра тое, што да "такога жыцця" наша вялікая суседка кацілася даўно. Спецыялісты падлічылі, што Расіі для разлікаў з крэдыторамі ў самы бліжэйшы час патрэбна 50 мільярдаў долараў. І гэта пры сукупнай запазычанасці 200 мільярдаў долараў і наяўнасці валютных рэзерваў толькі ў суме 15,1 мільярда долараў.

Фінансавая піраміда па лініі дзяржаўных крэдытных абавязацельстваў будавалася так доўга і настойліва, што ў ліпені ўрад С.Кірыенкі вымушаны быў накіраваць 20 мільярдаў рублёў на абслугоўванне дзяржаўнай пазыкі. І гэта тады, калі падаткаў было сабрана значна меней — 13 мільярдаў рублёў. Фіяска расійскаму бюджэту і бюджэтнай палітыцы было забяспечана.

Зразумела, што пераадолець такі глыбокі фінансавы крызіс Расіі будзе няпроста. І жыццё ў доўг давядзецца ўсё ж аплаціць расіянам. Інфляцыя непазбежная. Яна надзейна сфакусіравана дэвальвацыяй рубля.

Натуральна і тое, што пры цеснай прывязанасці эканомікі Беларусі да гаспадаркі Расіі за яе эканамічныя правалы будзем плаціць і мы, беларусы. Увесь парадокс у тым, што нарошчванне ўнутранай і знешняй запазычанасці адбывалася ў апошнія гады і адбываецца зараз таксама і ў Беларусі. І наогул, не будзе перабольшваннем сказаць, што фінансавая палітыка і фінансавыя адносіны ў Рэспубліцы Беларусь нічым асаблівым не адрозніваюцца ад таго, што адбываецца ў Расіі.

Калі і ёсць адрозненні, то толькі ў горшы бок. Так, у Расіі ўжо некалькі год не праводзілася эмісія грошай, а ў Беларусі друкарскі станок працаваў без перапынку. Як толькі ў красавіку 1998 года на пасаду старшыні Нацыянальнага банка заступіў чалавек Лукашэнкі — Пётр Пракаповіч, які не мае ніякай эканамічнай падрыхтоўкі і нават вопыту банкаўскай работы, то штомесячны рост грашовай масы дасягнуў 7,5 працэнта, што практычна азначае амаль падваенне колькасці грошай у абарачэнні за год. Невыпадкова на канец жніўня бягучага года грашовая маса ў рэспубліцы павялічылася ў параўнанні з 1995 годам у 5,5 раза. Ужо толькі гэтыя дзеянні Нацыянальнага банка дастатковыя для падтрымання высокіх тэмпаў інфляцыі і адчувальнай дэвальвацыі рубля. Праўда, зараз, каб выйсці з крызісу фінансавай сістэмы і скараціць запазычанасць па заработнай плаце і тым самым паслабіць чакаемыя выступленні рабочых, урад Расіі будзе вымушаны пайсці на інфляцыйную эмісію грошай. І не мае значэння, як яна будзе называцца: абмежаванай, забяспечанай залатым запасам, часовай або яшчэ якой — усё роўна яе аплацяць працоўныя, бо гэта абавязкова выкліча рост цэн.

Сістэматычная эмісія грошай, якія б мэты яна не мела — фінансаванне жыллёвага будаўніцтва, уборкі ўраджаю або пагашэнне запазычанасцей па энерганосьбітах, — ёсць у сваёй сутнасці збудаванне своеасаблівай грашовай піраміды як элемента фінансавай піраміды ў цэлым. Чым вышэй яна становіцца, тым небяспечней яе непазбежны абвал.

Калі вясной да ўлады ў Расіі прыйшоў малады ўрад, дарэчы, прафесіянальны, то Сяргей Кірыенка і яго паплечнікі, прааналізаваўшы сітуацыю на фінансавым рынку, прыйшлі да высновы, што фінансавая піраміда, збудаваная на аснове ўсё новых і новых даўгоў па лініі выпуска ДКА, ужо настолькі высокая і небяспечная, што можа ў любы момант абваліцца. Таму было прынята ўрадавае рашэнне аб спыненні выпуску дзяржаўных крэдытах абавязацельстваў. Аднак абвал усё ж наступіў 17 жніўня. Адтэрміноўка і рэструктурызацыя ўнутраных і знешніх пазык нанесла вялікія страты банкам, знешнім інвестарам, падарвала давер да дзяржавы і банкаўскай сістэмы.

Што датычыць Рэспублікі Беларусь, то ні ў Нацыянальным банку, ні ў Міністэрстве фінансаў і не думалі спыніць выпуск ДКА, якія сталі асноўнай крыніцай пакрыцця дэфіцыту дзяржаўнага бюджэту на суму звыш 16 трыльёнаў рублёў. Толькі прыкладна трэцюю частку гэтай сумы плануецца пакрыць у гэтым годзе за кошт крэдытаў Нацыянальнага банка. За апошнія два гады праведзена 100 выпускаў дзяржаўных крэдытных абавязацельстваў. А літаральна ў канцы жніўня выйшаў 101-ы выпуск. Жыццё ў доўг працягваецца. У дзяржаўных фінансавых органах так прызвычаіліся да ДКА, што сталі ўсхваляць іх як безінфляцыйны сродак пакрыцця дэфіцыту дзяржаўнага бюджэту. Такой ацэнкі некаторыя высокапастаўленыя банкаўскія чыноўнікі прытрымліваюцца і зараз, пасля ўзрушыўшага ўсю Расію і яе суседзяў фінансавага крызісу. Напрыклад, начальнік упраўлення інфармацыі Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Анатоль Драздоў лічыць, што "дзяржава выпускае каштоўныя паперы пад невялікі працэнт (каля 40 працэнтаў гадавых). Да таго ж, галоўны пакет акцый скупляецца Нацыянальным банкам, што выключае верагоднасць якой-небудзь рызыкоўнай фінансавай гульні". Аб якой бяспецы ідзе гаворка, калі ДКА ўсё ж распаўсюджваецца, і не мае значэння, які банк іх купіў: дзяржаўны або камерцыйны. Бо ў рэшце рэшт адцягваюцца сотні мільярдаў рублёў грашовых сродкаў камерцыйных банкаў ад выкарыстання ў рэальнай эканоміцы. Тым болей што існуе другасны рынак каштоўных папер, дзе камерцыйныя банкі прадаюць і закладваюць каштоўныя паперы адзін аднаму альбо прадпрыемствам, імкнучыся атрымаць на гэтым прыбытак. А тая акалічнасць, што частка нерэалізаваных аблігацый, што бывае вельмі часта, набываецца Нацыянальным банкам, то гэта якраз горшы варыянт, бо набыццё ажыццяўляецца праз эмісію грошай. Так, 11 жніўня па 99-м выпуску ДКА (аб'ём эмісіі 700 мільярдаў рублёў) было размешчана каля палавіны — 53,4 працэнта. Чаму банкі не набываюць ДКА? Па дзвюх прычынах: па-першае, адчуваюць ціск фінансавай піраміды, а па-другое, працэнт па гэтым крэдыце не перавышае 40 працэнтаў гадавых, што ніжэй фактычнага ўзроўню інфляцыі. Так лічыць адзін з кіраўнікоў аддзела каштоўных папер Белпрамстройбанка прафесар Б.М.Жыліба. Але фінансавая піраміда ёсць піраміда. Наступіў тэрмін пагашэння 69-га выпуску ДКА, і Мінфін разам з Нацыянальным банкам літаральна праз тыдзень, 18-га жніўня, выпусціў чарговы, 100-ты тыраж ДКА. Якраз калі пачаўся фінансавы крызіс у Расіі. Аб'ём эмісіі павялічылі да 900 мільярдаў рублёў. І зноў недаразмяшчэнне склала амаль 200 мільярдаў рублёў . І якая розніца, калі гэтыя сотні мільярдаў рублёў дзяржаўных каштоўных папер забярэ сабе праз эмісію Нацыянальны банк. Бо і гэты сегмент фінансавай піраміды працягвае расці, расце і сума пагашэння ДКА. Яна ўжо пераваліла за 4 трыльёны рублёў. Тым больш што ў канцы жніўня зроблены 101-ы выпуск ДКА, праўда, зараз толькі на 500 мільярдаў рублёў. Сказаўся фінансавы крызіс у Расіі.

Падобна на тое, што ні Цэнтральны банк, ні Мінфін не рэагуюць на паглыбленне фінансавага крызісу ў Расіі. Фінансавая піраміда ў сегменце ДКА расшыраецца. 21 жніўня зроблены сёмы выпуск ДДА-КП (дзяржаўных доўгатэрміновых аблігацый з купонным даходам) тэрмінам на 731 дзень, да 25 жніўня 2000 года. Аб'ём эмісіі — 400 мільярдаў беларускіх рублёў. Аднак і гэты выпуск, які адлюстроўвае толькі дэфіцыт грошай у бюджэце і жаданне атрымаць чарговую пазыку, праваліўся. Размешчана толькі 14,1 працэнта аблігацый. Гэта вельмі трывожны сігнал. Дык дзе ж гарантыя, што і беларуская фінансавая піраміда не абваліцца так, як абвалілася яна ў Расіі? Тым больш што апроч ДКА ёсць яшчэ некалькі сегментаў фінансавай піраміды. Адным з іх з'яўляецца рост знешняй запазычанасці. Знешняя запазычанасць толькі краінам СНД складае зараз 7 трыльёнаў рублёў.

Складанасць і супярэчнасць фінансавай піраміды ў Рэспубліцы Беларусь дапаўняюць далзеныя аб росце крэдыторскай і дэбіторскай запазычанасці. Калі грошы, акумулюемыя ў бюджэце праз ДКА і ДДА, ідуць не ў рэальную эканоміку, а на ўтрыманне чыноўнікаў альбо шматлікага корпусу міліцыі, то гэта не можа не сказацца на росце крэдыторскай запазычанасці. Толькі пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць да канца першага паўгоддзя склала 67,6 трыльёна рублёў і вырасла з пачатку года на 43 працэнты. Рост дэбіторскай запазычанасці, а гэта неплацяжы, склаў за гэты ж перыяд 18 працэнтаў, і яе пратэрмінаваная частка дасягнула сумы 49,3 трыльёна рублёў. Пагоршылася фінансавае становішча прадпрыемстваў. У параўнанні з пачаткам года іх плацежаздольнасць ва ўсіх галінах беларускай эканомікі знізілася. Так, на 1 студзеня 1998 года грашовыя сродкі на рахунках прадпрыемстваў прамысловасці маглі пакрыць пратэрмінаваную крэдытную запазычанасць на 20,8 працэнта, а на пачатак ліпеня — толькі на 19,7 працэнта.

Прыклад Расіі насцярожвае. Калі фінансавая піраміда будзе расці, то, відавочна, і Беларусі давядзецца рэструктурызаваць сваю знешнюю і ўнутраную запазычанасць з усімі негатыўнымі наступствамі, бо фінансавая піраміда ў часе не бестэрміновая.

